


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

10 студзеня 2003 года

№ 2 (403)
Выходзіць па пятніцах

Плюс Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёна

### Новы год на новым месцы

ВІЛЕЙКА. На новым месцы сустрэлі Новы год урачы і хворыя скурвендыспансера.

Цяпер ён размяшчаецца ў адным будынку з аддзяленнем «хуткай дапамогі» па вуліцы Вадап'янава. Пераезд з Куранца ў Вілейку, які планаваўся на 1 лістапада, адбыўся толькі 27 снежня. Прычынай затрымкі стаў рамонт памяшкання.

Віталь ПАЎЛОЎСКІ.

### Захацелася гуся на Каляды

МЯДЗЕЛ. Пэўна, захацеў пабалаваць сябе калядным гусем мужчына. Якраз у ноч з 6 на 7 студзеня з хлява ў Княгініне ён скраў гусака. Праўда, пабаляваць не давялося: ужо ўдзень злодзея злавіла міліцыя. Гусака вярнулі ўладальніцы.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Тэлефон у доме

ВАЛОЖЫН. У 100 дамах Бабровіцкага сельскага Савета зазванілі тэлефоны. Нумары атрымалі ўсе жадаючыя з гэтага сельсавета.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Кватэры для пагранічнікаў

СМАРГОНЬ. Для пагранічнікаў мясцовага атрада пабудавалі 3-павярховы дом. 27 сямей афіцэраў атрымалі добраўпарадкаваныя кватэры. У студзені плануюць здаць і 4-павярховы дом на 24 кватэры.

Будаўніцтвам займаецца ААТ "Будаўніча-мантажны трэст №41".

Ірына РАБУШКА.

### Жыллё не будуюць

ВАЛОЖЫН. За 2002 год у райцэнтры было прададзена–куплена 75 кватэр і 3 кватэры ў Івянцы. У 2001 годзе – на 9 больш.

Цяпер аднапакаёвую кватэру купіць цяжка. 2-х і 3-пакаёвыя моцна надаражалі. Гэта адбываецца з-за таго, што жыллё амаль не будуецца.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Чысць жыве

МАЛАДЗЕЧНА. 4 гады запар у пасёлку Чысць нараджальнасць перавышае смяротнасць. У 1,8 раза – у 1999 годзе, 2,2 раза – у 2000 годзе, 1,5 раза – у 2002 годзе. Старшыня Чысцінскага сельскага Савета Генрых Кутас тлумачыць гэта маладым узростам местачкоўцаў – 37 гадоў у сярэднім.

Пасёлак жа стварыўся ў 1955-56 гадах.

Ірына РАБУШКА.

# Мы не вымерзнем!



Дым угору – быць пагодзе. Фота IREX/ProMedia.

## Апошнія дні былі адзначаныя рэкорднымі ў гэтым дзесяцігоддзі па абсалютных паказчыках маразамі

Гэта даставіла шмат клопатаў камунальным службам, дарожнікам, усім нам. Здараліся і надзвычайныя выпадкі, якія заканчваліся трагічна. На Астравеччыне жанчына сталага ўзросту не дайшла дадому – замерзла. Але што гэта ў параўнанні з Масквой, дзе за адну ноч ад пераахаладжвання развіталася са сваім жыццём больш за 200 чалавек – у асноўным бяздомныя.

У нас большая праблема не захаваць сваё жыццё ў маразы – мы, беларусы, і не вымерзнем, як не вымерзлі да гэтага. А як пахаваць таго, хто памёр. Вілейскія камунальнікі, напрыклад, ночы начуюць пры раскладзеных вогнішчах, каб выкапаць затым магілы для нябожчыкаў – зямля прамерзла на метр і больш. З зямлёй, як камень, не хоча спраўляцца нават аўтамабільная свідравальная ўстаноўка.

Як ніколі, уздоўж дарог можна сустрэць шмат бедалаг–шафёраў, якія клянуць той дзень, калі спакусіліся на аўто з дызельным рухавіком. Разумныя немцы і хітрыя японцы не разлічвалі на нашыя маразы і нашую салярку, няхай сабе і разведзеную газай.

Між тым, абсалютнага рэкорду холаду ў нашым рэгіёне яшчэ не зафіксавана.

Па дадзеных азёрнай станцыі "Нарач", найхаладней у апошні час было ўначы 7-га студзеня – мінус 30,9 градуса па Цэльсіі. Аднак за чатыры дзесяцігоддзі назіранняў гэта не найменшы паказчык. У 1969 годзе слупок тэрмометра апускаўся да мінус 34 градусаў.

Праўда, пачатак студзеня можа ўсталяваць рэкорд па колькасці такіх халодных дзён, калі сярэднясутачная тэмпература паветра была на 10–15 градусаў менш за сярэднестатыстычныя паказчыкі.

Алесь ВЫСОЦКІ, Мікола ГАЙДУК.

### Астравецкія страсці

Пракуратура і Цэнтрвыбаркам займаюцца разборам скаргі астраўчаніна Івана Крука. Былы работнік праваахоўных органаў вылучае сваю кандыдатуру на выбарах у мясцовыя Саветы.

5-я старонка

### «Казлу» – 30 год



У чарговым выпуску "Аўта-мота" вы прачытаеце аб гісторыі папулярнай аўтамаркі УАЗ-469, якой споўнілася 30 год.

6-7 старонкі

### Застаўся толькі ўспамін...



Аб такой з'яве як сацыялістычнае спаборніцтва між гарадамі ўспамінае гісторык Міхаіл Філістовіч.

8-я старонка

# Таксі выклікалі?

**ВІЛЕЙКА. Ужо даволі працяглы час віляйчане могуць карыстацца паслугамі прыватных маршрутных таксовак. У канкурэнцыі сутыкнуліся прыватны бізнес і дзяржава. Цяпер пасажыры маюць выбар, каму плаціць за праезд. Па законах рынку, наперадзе будзе той, хто здолее працаваць найбольш эфектыўна і якасна абслугоўваць з найменшымі выдаткамі. У любым выпадку, пасажыры ад гэтага толькі выйграюць.**



Таксі на маршруце. Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

Першая прыватная маршрутка з'явілася ў Вілейцы ў 2001 годзе, а сёння працуюць дзве маршруткі, якія належаць Аляксею Валынцу і Віктару Шабуню. Акрамя іх, ёсць дзяржаўнае маршрутнае таксі ад аўтобуснага парка.

Маршрутнае таксі ў Вілейцы ці не самае таннае ў Беларусі – 300 рублёў. Для параўнання, у Мінску праезд каштуе 500 рублёў, у Барысаве – 400. У выхадныя дні праезд у маршрутцы каштуе 300 рублёў, у маршрутным аўтобусе – 360 рублёў. Аляксей Валынец кажа, што гэткую цану ўстанавіў, каб, па-першае, не таргавацца, па-другое, у людзей мала грошай.

Асноўнай праблемай Аляксей Валынец лічыць нестабільнасць дзяржаўнага рэгулявання бізнесу. У выніку ўсе прадпрымальнікі баяцца заўтрашняга дня. Невядома, якія новаўвядзенні ўлады прыдумаюць. Ходзяць чуткі аб увядзенні патрабавання выкарыстоўваць у якасці маршрутных таксі машыны, не старэйшыя за 10 гадоў. Цяпер патрабуюць адкрываць рахунак і здаваць выручку ў банк. Гэта патрабуе новых выдаткаў.

Па словах Аляксея, складанасці выклікае таксама савецкі менталітэт людзей. Псіхалагічна ім прасцей аддаць грошы дзяржаўнаму прадпрыемству, чым у рукі прыватніку. Яшчэ існуе стэрэатып, што ў таксі абавязкова "абдзяруць". Некаторыя селі б у маршрутку, але яны прывучаныя не плаціць, а гэта добра ўдаецца ў дзяржаўным аўтобусе ў спешную гадзіну ("час пік"), калі кандуктар не можа ўсіх абілеціць.

Аляксей зазначае, што прадпрымальнікі не просяць у дзяржавы дапамогі. Яны самі дапамагаюць дзяржаве, выплачваючы падаткі ў бюджэт. У гэткай сітуацыі можна прасіць толькі, каб улады не перашкаджалі працаваць.

Аляксей прызнае, што прыватныя маршруткі не маюць жорсткага маршруту і графіка руху ў параўнанні з дзяржаўнымі аўтобусамі. Але яны больш зацікаўленыя ў якасных паслугах. Шафёр аўтобуса ў любым разе атрымае зарплату ды і салярку пры магчымасці "зліе", а даход прадпрымальніка залежыць толькі ад уласных намаганняў.

Прыватнікі вымушаныя выбіраць рэнтабельныя маршруты, бо яны ў адрозненне ад аўтобуснага парка не маюць дзяржаўных датацый і толькі за свае грошы купляюць салярку і запчасткі. Для нерэнтабельнага маршруту трэба падымаць цану.

Пры нармальным руху кожныя 10 – 20 хвілін на прыпынак прыходзіць маршрутны аўтобус. У гэты перыяд і ідзе спаборніцтва за пасажыраў. Па словах Аляксея Валынца, маршрутцы найлепш пад'язджаць у сярэдзіне гэтых інтэрвалаў, бо інакш альбо людзі чакаюць аўтобус, які хутка будзе, альбо прыпынак ужо пусты.

Паслугі таксовак не абмяжоўваюцца перавозкамі пасажыраў па маршруце. Людзі заказваюць таксі ў розны час і для розных мэтаў – ад перавозкі мяшка да транспарціроўкі хворых у бальніцу. Увечары і ўначы, калі аўтобусы ўжо не ходзяць, моладзь заказвае маршруткі, каб даехаць дадому пасля актыўнага адпачынку на дыскатэцы ці ў бары.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 2.01 руб. | 9.01 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1920,00 | 1923,00 |
| Еўра | 1993,63 | 2002,52 |
| Злоты | 498,47 | 500,46 |
| Літ | 577,50 | 579,88 |
| Расійскі рубель | 60,41 | 60,31 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1925/1950 | 1930/1950 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 2.01 | 8.01 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 11470 | 10990 |
| Сасіскі, 1 кг | 4990 | 4900 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 1 кг | 700 | 720 |
| Грэчка, 1 кг | 1050 | 1100 |
| Цукар, 1 кг | 940 | 920 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | 1380 |
| Алей, 1 л | 1600 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 450 | 450 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2000 | 2000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 600 | 620 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 680 | 700 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 700 | 800 |
| Капуста, 1 кг | 500 | 500 |
| Морква, 1 кг | 700 | 1000 |
| Лімоны, 1 кг | 2000 | 2400 |
| Апельсіны, 1 кг | 1600 | 1690 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1 л | 700 | 800 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1800 | 2000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1700 | 1700 |
| Бульба, 1 вядро | 3600 | 4000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1200 |

■ НАШЫЯ ГРОШЫ

# Клубок праблем усё тужэйшы

**Хоць з-за святаў афіцыйнай стытыстыкай яшчэ не падлічаны паказчыкі развіцця краіны за апошні месяц мінулага года, папярэдні аналіз развіцця эканомікі за 2002 год зрабіць усё ж можна. Пачнём з таго, што атрымалася.**

Удалося выканаць запланаваныя нарматывы росту вытворчасці і гандлю (на 4,5% і 7% адпаведна). Ураду і Нацыянальнаму банку ўдалося ўтрымаць курс нацыянальнай валюты ў прагназуемым калідоры – да 1920 рублёў за долар. Удалося і стабілізаваць інфляцыю – хоць бы на ўзроўні 33%, заграгічным для большасці краін, але адносна невысокім па аб'ектыўных прычынах для Беларусі ўзроўні. Плюсам варта лічыць і зніжэнне бартэрных разлікаў, і агульнае ўмацаванне фінансавай дысцыпліны, што наглядна прадэманстраваў рост плацяжоў за энерганосьбіты пад пагрозай адключэння.

Большага краіне не ўдалося. Не ўдалося галоўнае – дабіцца рэальнага павышэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва, чаго між іншым немагчыма і за год дасягнуць. Беднее насельніцтва і з-за павелічэння росту цэн. Вялікім мінусам за год можна лічыць пагаршэнне ўмоў для прадпрымальніцтва і малога бізнесу наогул. Беларусь аказалася адной і адзінай краінай, дзе колькасць прадпрыемстваў малога і сярэдняга бізнесу зменшылася, што пацвярджаюць шматлікія аб'явы аб ліквідацыі прадпрыемстваў у газеце "Республика". Гэтаму не дапамаглі нават масавыя забастоўкі прадпрымальнікаў.

У цэлым, 2002 год аказаўся годам абмануты чаканняў, рэформы не зрушыліся, вузел праблем зацягваецца ўсё тужэй, краіна на мяжы сістэмнага крызісу ў эканоміцы. Таму прагнозы на наступіўшы год не могуць быць аптымістычнымі, а некаторыя аналітыкі 2003 год лічаць нават годам шокавай тэрапіі. На наш погляд, ён хутчэй будзе годам шоку без тэрапіі. Крыўдна, што ў свой час 10 год таму мы не паспелі сесці ў цягнік рэформ разам з суседнімі прыбалтыйскімі краінамі і Польшчай. Але мы ўжо ўсё больш адстаём і ад Расіі, у якой прыняты закон аб абароце ворнай зямлі, дзе поўным ходам ідуць прыватызацыя і рэструктурызацыя эканомікі і працэс змяншэння ўплыву дзяржавы на эканоміку. Расія ўжо выйшла на дакрызісны ўзровень 1998 года, а мы працягваем таптацца на месцы. Кімсьці падлічана, што для таго, каб дагнаць самую бедную цяпер еўрапейскую краіну – Партугалію, у нас павінны быць штогодна як у Кітаі прырост 8%. І толькі тады гадоў так праз 20-30 мы б яе, можа, і маглі б дагнаць. Калі ж мы будзем расці тэмпамі на ўзроўні 4%, як за апошнія два гады, то мы не дагонім яе ніколі. І застанемся самай беднай краінай кантыненту.




2002 год – год неразвязаных праблем. Фота IREX/ProMedia.

Цяпер аб рэаліях гэтага года. Рост цэн на нафту на сусветных рынках у пачатку года ў сувязі з магчымай агрэсіяй супраць Ірака пагоршыць знешнегандлёвае сальда Беларусі і адаб'ецца на росце цэн на энерганосьбіты. Умацаванне адзінай еўрапейскай валюты еўра ў адносінах да долара таксама прывядзе да адмоўных вынікаў у знешнім гандлі, бо прадаём мы прадукцыю за долары, а купляем за еўра. Курс беларускага рубля па выніках года не павінны перавысіць 2250-2350 рублёў па прагнозах Нацыянальнага банка. Апярэджваючымі тэмпамі рост курса долара чакаецца па традыцыі ў першай палове года, асабліва ў студзені-лютым, і затым да верасня ён стабілізуецца. Па дадзеных галоўнага банка краіны, насельніцтвам за год куплена і прададзена валюты на суму 2,5 мільярда долараў, прычым на 500 мільёнаў насельніцтвам куплена больш, чым прададзена. Падобна, гэтая тэндэнцыя захаваецца. Аднак, думаем, што курс уладам утрымаць удасца. Бо інакш ім прыйдзецца перагледзець узровень даходаў – на канец 2003 года сярэдняя заработная плата па народнай гаспадарцы ў доларавым эквіваленце павінная скласці 130 долараў, у бюджэтнікаў – 125 долараў. На 30% чакаецца рост пенсій за год, што пры інфляцыі 33% наўрад ці прывядзе да рэальнага паляпшэння жыцця пенсіянераў.

Наогул, у наступіўшым годзе Казы з-за яе нораву многае будзе вызначацца насуперак законам рынку, і ў цэлым у фінансавай сферы абстаноўка чакаецца спрыяльнай. Хоць вялікая рызыка і доўгачасовых укладанні не рэкамендуюцца, бо не прынясуць хуткай аддачы. Чакаецца рэзкі рост цэн на медыцынскія паслугі і медыкаменты. На нерухомасць іх рост будзе нязначным – яны і так ужо дасягнулі небывалых вышынь. Кар'ерыстам у бізнесе ўдача нават ці ўсміхнецца, бо Каза славалюбствам не хварэе. Добрых вынікаў даб'юцца тыя, хто будзе шмат працаваць і добра рабіць сваю справу і хто дзякуючы сіле волі, амбіцыям і актыўнасці зможа рэалізаваць сябе. На першы план выйдуць практычныя паўсядзённыя рэаліі нашага жыцця, калі прыйдзецца проста выконваць свае абавязкі.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

■ ДЗЕЦІ – НАША БАГАЦЦЕ

# Касметыку – дзецям!

**За такое правіла бралі ў сваёй рабоце дарослыя педагогі, якія працавалі летам ў дзіцячым аздараўленчым лагеры "Зенітавец".**



Дзеці павінны быць накормленымі. І адказваюць за гэта дарослыя.

Фота IREX/ProMedia.

Праверка ўпраўлення антыманапольнай і цэнавай палітыкі Мінскага аблвыканкома работы дзіцячага аздараўленчага лагера "Зенітавец" у Вілейскім раёне выявіла шэраг парушэнняў у дзейнасці летніка.

Харчаванне дзяцей не адрознівалася вялікай разнастайнасцю. У лагер мала закуплялася свініны і ялавічыны. А свежай бульбы не было наогул. Не вытрымліваліся натуральныя нормы харчавання дзяцей па муцэ, бабовых, гароднінe, алеі, малаку, смятане, тварагу. Многія бацькі і не здагадваліся, што іх дзяцей будзе чакаць такое харчаванне.

У лагеры, які знаходзіцца ў падпарадкаванні завода "Зеніт", адпачывалі дзеці ад 7 да 14 год. Лагер знаходзіцца амаль на беразе Віліі ў вёсцы Халяніна і разлічаны на 65 чалавек у змену. Усяго было 4 змены па 18 дзён. І ўсе дзеткі, якія трапілі ў летнік, не атрымалі за гэты час паўнавартаснага харчавання. Але затое, атрымалі ў прызы... касметыку – губную памаду, лакі для пазногцяў і валасоў, бляск для вуснаў і г.д. Уявіце сабе сямігадовую дзяўчынку з такім прызам.

Каштарыс расходаў лагера прадугледжваў дзве паездкі дзетак у кожную змену у тэатр. Балазе Маладзечна і Мінск не так далёка. З'ездзілі ж яны ў тэатр усяго два разы за тры змены.

І калі дзеткі сапраўды маглі не ведаць пра тое, што ім належыць, то персанал павінен быў знаць свае правы і магчымасці. Харчаванне персаналу ў 1-ю і 2-ю змены было арганізаванае 4-разовае, у 3-ю і 4-ю – 3-разовае. Артыкул каштарыса "харчаванне персаналу" прадугледжваў 50%-ю кампенсацыю. Па каштарысу было прадугледжана 20 чалавек, фактычна харчавалася не больш за 16 чалавек. Гэта значыць, не былі ўлічаныя сумяшчальнікі. У выніку дапушчана завышэнне затрат па гэтаму артыкулу ў 1-й змене больш чым на 104 тысячы рублёў, у 2-й – больш чым на 91 тысячу рублёў, у 3-й змене – амаль на 120 тысяч рублёў.

Праверка ўстанавіла, што ў выніку парушэння дысцыпліны цэн лагерам была атрыманая неабгрунтаваная выручка ў памеры 886 тысяч 210 рублёў. Дысцыплінарныя меры да кіраўніка лагера Таццяны Дзяругі прынятыя. Але ці перастануць пасля гэтага дзеці, якія едуць адпачываць у "Зенітавец", быць людзьмі другога гатунку?

**Мікола ГАЙДУК.**

## Дзеці заставаліся галоднымі

**У дыяграмах паказаныя натуральныя нормы харчавання ў дзень на адно дзіця і фактычная карціна па праверцы лагера "Зенітавец". Паказчыкі ў натуральным выражэнні (грамы).**




■ БЯСПЕКА ЖЫЛЛЯ

# Экалогія кватэр

**Усім вядома прымаўка "Мой дом – мая крэпасць!". І сапраўды, менавіта дадому мы вяртаемся з работы, у родных сценах адпачываем, бавім час з дзецьмі. А калі браць больш шырока, то, па падліках навукоўцаў, у розных кшталту памяшканнях чалавек праводзіць да 80% свайго часу. Тут маюцца на ўвазе ўсе памяшканні: жылыя, прамысловыя, культурнага прызначэння.**

Але... Шэраг замераў паказаў, што ў памяшканнях прысутнічае больш за 100 лятучых хімічных рэчываў ў выглядзе аэразоляў. Гэтыя небяспечныя дабаўкі вядуць да таго, што забруджванне паветра ў кватэрах можа быць у 1,8-4 разы вышэй, чым на вуліцы. Уся справа ў хімізацыі нашага побыту, з'яўленні новых палімерных матэрыялаў і ў тым, што ў будматэрыялы трапляюць адходы і небяспечныя рэчывы.

Наш арганізм за мільёны год эвалюцыі прыстасаваўся да пэўнага набору хімічных элементаў і рэчываў прыроднага паходжання. Але за апошнія дзесяцігоддзі мы перажылі цэлую "палімерную" рэвалюцыю. Людзі сталага ўзросту хай прыгадаюць, якое было іх жыллё год 50 таму. На працягу ўсяго 2-х пакаленняў наш побыт змяніўся кардынальна. Што тычыцца камфорту – у лепшы бок. А вось, што тычыцца экалагічнай бяспекі?...

Мяркуйце самі. Цяжкія металы па стрэс-фактару (ступені паражэння арганізма) нават пераўзыходзяць радыяцыю. Але хром і нікель ўтрымліваюцца ў цэменце, бетоне, шпаклёўцы, што зробленая з дабаўленнем прамысловых адходаў. У гэтай жа шпаклёўцы і некаторых фарбах утрымліваецца кобальт.

Такое агрэсіўнае злучэнне, як фармальдэгід, ёсць у ДСП, ДВП, масціках, шпаклёўцы, а фенол – у ДСП, лінолеумах, масціках, шпаклёўцы. Вось чаму так неабходна, каб памяшканне, дзе робіцца рамонт, абавязкова праветрывалася. А дзіцячы пакой быў аздоблены па магчымасці толькі натуральнымі прыроднымі матэрыяламі.

Бензол выдзяляецца з масцікі, клею, лінолеуму, цэменту і бетону. А ацэтон – з лакаў, фарбаў, клею, шпаклёвак, масцікі. Прычым выдзяленне ў паветра ўсіх вышэй названых рэчываў можа адбывацца нават на працягу некалькіх месяцаў. І ўвесь гэты час арганізм будзе павольна атручвацца. Так што варта, каб, напрыклад, лінолеум, перад яго прымяненнем у кватэры, паляжаў нейкі час у нежылым памяшканні ў разгорнутым выглядзе.

Акрамя хіміі, у памяшканнях "пасяліўся" і такі неспрыяльны фактар, як электрамагнітныя палі (ЭМП) рознай інтэнсіўнасці. Яны ўздзейнічаюць на выпрацоўку мелаціну шышкападобнай залозай галаўнога мозга, што вядзе да змянення ў тканках і можа выклікаць ішэмічную хваробу і хваробу Паркінсона. Негатыўнае ўздзеянне ЭМП змяншаецца з павелічэннем адлегласці да электрабытавой прылады. Так, бяспечная адлегласць пры карыстанні лядоўняй "Мінск-11" – 0,1 м, электрарадыятарамі – 0,3 м, электрадухоўкай – 0,4 м, таршэрам на 2 лямпачкі – 0,3 м.

Такім чынам, экалагічнае ўздзеянне рознага кшталту фактараў унутры памяшканняў не заўсёды бывае спрыяльным. Асабліва ў зімовы час, калі ў марознае надвор'е праветрыць кватэру бывае няпроста. Але варта нагадаць, што расчыненыя на кароткі час вокны хутчэй мяняюць паветра ў пакоі і менш яго халодзяць, чым надоўга прыадчыненая фортка. І яшчэ. Калі набываеце матэрыялы для рамонту альбо прылады для бытавога карыстання, зазірніце, калі ласка, у іх сертыфікацыю. Калі там гаворыцца пра экалагічнасць – купляйце, нават і крыху даражэй. Бо даражэй за здароўе ўсё роўна нічога няма!

**Алег БЯГАНСКІ.**

# Калі вас захапіў тэрарыст

**Існуе лінія паводзін ва ўмовах варожага і бязлітаснага акружэння. Ведамі павінныя валодаць усе.**



Заложнік – гэта чалавек, які знаходзіцца у палоне злачынцаў. Схема дзеянняў злачынцаў: планаванне, падрыхтоўка, захоп, укрыцце, заложнік, размовы і допыты, вядзенне перагавораў, атрыманне выкупу, вызваленне ці забойства ахвяры. Супрацьдзеянне на этапе планавання: ілжывая інфармацыя аб сабе, маскіроўка і дэзінфармацыя, выяўленне патэнцыяльна варожых асоб. На этапе падрыхтоўкі злачынцы дасканала вывучаюць людзей і мясцовасць. Пры правядзенні захопу стараюцца выкарыстоўваць звычкі і традыцыі. У момант захопу злачынцы дзейнічаюць бесцырымонна, нават жорстка. Адзіная магчымасць вырвацца з рук злачынцаў бывае ў пачатковай стадыі захопу, у момант нападзення. Нечаканыя для злачынцаў дзеянні могуць прывесці да выратавання. Калі супраціўленне бескарысна, трэба пакінуць як мага больш сведкаў. Кантралявацъ і фіксаваць усё, што можа садзейнічаць вызваленню. Складаецца ў думках псіхалагічны партрэт кожнага злачынцы. Яны ж імкнуцца прыгнесці волю палоннага і запалохаць яго. Бязвольныя паводзіны, упрошванне пашкадаваць рэальнай карысці прынесці не могуць. Галоўнае правіла – дапамагаць не злачынцам, а сабе. Перакананне злачынцаў у нерэальнасці іх патрабаванняў садзейнічае вырашэнню інцыдэнта, калі яны цвярозыя. Пры допыце вопытныя злачынцы стараюцца выклікаць сяброўскую прыхільнасць. Пры гэтым яны пагражаюць ў выпадку няўступчывасці перадаць справу тупому і жорсткаму. Для псіхалагічнай ломкі абмяжоўваюць зрок, слых, дрэнна кормяць, мучаюць смагай і ствараюць дрэнныя ўмовы знаходжання. Пыткі псіхалагічныя вытрымаць намнога цяжэй, чым фізічныя. Злачынцы ўсё роўна прымусяць гаварыць. Трэба вызначыць, наколькі важная скрываемая інфармацыя, наколькі далёка могуць зайсці злачынцы, што трэба скрыць ад бандытаў у любым выпадку. Правіла: рабіце паўзы, выкарыстоўвайце складаныя тэрміны, выказвайцеся мнагазначна, празмерна дэталізуйце, імітуйце дрэнную асведамлёнасць і дэзарыентацыю аб болю, страху, хваляванні, рабіце выгляд, што не разумееце акцэнт, блатны жаргон, няяснае вымаўленне, гаварыце манатонна, без эмоцый, каб было складаней зразумець, дзе праўда, а дзе хлусня. Пазбягайце глядзець у вочы злачынцу, будзьце ветлівымі, не абражайце бандытаў. Праводзьце сваю лінію як быццам бы згодай. Захаванне псіхалагічнай стойкасці: захоўваць патрабаванні асабістай гігіены, рабіць самамасаж і фізічныя практыкаванні, практыкаваць аўтатрэнінг і медытацыю, успамінаць прачытаныя кнігі, вершы, песні, рашайце шахматныя і матэматычныя задачы, успамінайце замежныя словы, галава павінная працаваць. Важна сачыць за часам. Пастаянная мышачная напруга пры пагрозе забірае сілы. Назірайце за сабой як бы збоку, да канца надзейцеся на добры зыход. Захоўвайце запас лякарстваў, вады, ежы. Калі пачаўся штурм, то пастарайцеся прыкрыць сваё цела ад куль. Лепш за ўсё легчы далей ад вокнаў і дзвярэй, тварам уніз, не на прамой лініі ад аконных і дзвярных праёмаў. Не бярыце ў рукі зброю бандытаў. Злачынцы ў час штурму нярэдка імкнуцца схавацца сярод заложнікаў. Паведамляйце аб іх уварваўшымся байцам. Спецслужбы павінныя праслухоўваць размовы, што вядуцца ў памяшканні. У размовах з бандытамі паведамляйце інфармацыю, якая можа быць выкарыстана ў час штурму. У пачатку экстрэмальнай сітуацыі часта рэакцыя "не веру". Адна мая знаёмая назірала стрэльбы бандытаў і пры гэтым лічыла, што ідуць здымкі кінафільма. Збаўленне ад самападману карысна ва ўсіх адносінах. Метады фарсіраванага ўздзеяння на асобу ставяць мэту стварэння скажонай рэальнасці ў аб'екта апрацоўкі. Пры псіхічнай самаабароне ствараецца свая пазітыўная рэальнасць. Эфектыўнасць яе вызначаецца трываласцю і індывідуальнасцю. Ні ў якім выпадку не жадайце смерці тырану, гэтае жаданне стане часткай створанай рэальнасці. Нават у самых абмежаваных абставінах у чалавека ёсць свабода думак. За гэтую свабоду трэба плаціць адмовай ад жыцця па паняццях. У бандытаў жа, як у воўчай зграі, любы паступак можа змяніць становішча ў іерархіі.

**Аляксандр ГУЛАК, урач.**

■ АЎТАЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# Вядомаму «Казлу» – 30 год

**30 год таму з канвеера Ульянаўскага аўтамабільнага завода сышоў першы УАЗ-469, які стаў "камандзірскім" аўтамабілем у арміі і "казлом" у народзе. Заданне на распрацоўку ваеннага ўсюдыхода далі ў сярэдзіне 50-х гадоў мінулага стагоддзя, калі стала зразумелым, што ГАЗ-69 ужо безнадзейна састарэў. І Савецкай арміі спатрэбіўся недарагі і просты ў эксплуатацыі аўтамабіль.**

Прынцып распрацоўкі новай мадэлі быў дастатковы. Канструктары сабралі ўсе лепшыя замежныя пазадарожнікі, сярод якіх былі Лендровер, Кампаньёла – італьянскай фірмы "Фіат" – і іншыя аўтамабілі, стаяўшыя на ўзбраенні ў НАТА.

Іх дасканала вывучылі, разабраўшы літаральна да шрубкі. У выніку гэтай карпатлівай работы і быў створаны УАЗ-469, які ўвабраў у сябе ўсё лепшае ад замежных праходцаў. У аўтамабіля вельмі простая канструкцыя, што абумоўлена яго прызначэннем.

За 30 гадоў аўтамабіль разышоўся больш чым мільённым тыражом. Прычым, доўгі час "козлік" быў па сілах толькі ваенным і спецслужбам. Толькі калгасы і саўгасы маглі атрымліваць гэтыя аўтамабілі, бо дарогі на вёсцы ўяўлялі з сябе "напрамкі". А звычайныя савецкія грамадзяне радаваліся толькі спісаным аўтамабілям.

УАЗ-469 мае рамную канструкцыю, ён крайне ўтылітарны, і ні аб якім камфорце ў гэтым аўтамабілі, вядома, гаворка на вядзецца. Ва ўсе часы "козлік" з зайздраснай упартасцю літаральна "вытрасаў душу" са сваіх пасажыраў.

Тым не менш, гэты аўтамабіль стаў вядомым у многіх краінах свету, у тым ліку і ў Паўночнай Амерыцы, дзе ў лепшыя гады прадавалася аж да пяці УАЗ-469 у год. А ў савецкай арміі "козлік"стаў такім жа сімвалам савецкай арміі, як і аўтамат Калашнікава.

На заводзе лічаць, што расійскі джып карыстаецца папулярнасцю ў Расіі і ў свеце дзякуючы ўдаламу спалучэнню высокай праходнасці і адносна невялікай цаны. Продак "469-га-УАЗ-31512 цяпер каштуе 100 тысяч расійскіх рублёў. А італьянцы прадаюць сабраныя ў сваёй краіне УАЗы за 16 тысяч долараў. Гэта больш чым канкурэнтаздольная цана – Лендровер каштуе каля 50 тысяч долараў.

Слава "казла" расла прапарцыянальна яго іміджавым выпрабаванням. УАЗы праехалі па Вялікаму шаўковаму шляху, заваявалі раёны крайняй Поўначы і Сібіры. У 1975 годзе адбыўся прабег па пустыні Сахара. А ў 1979 годзе ён заваяваў пяскі Каракум.

У 1974 годзе ў час правядзення выпрабаванняў тры звычайныя серыйныя "уазікі" без лябёдак і супрацьбуксовачных ланцугоў здзейснілі ўзыходжане на Эльбрус на вышыню 4 тысячы метраў. Туды і назад аўтамабілі дабраліся без чыёйнебудзь дапамогі.

У 1997 годзе той жа подзвіг спрабаваў паўтарыць вядомы "Лендровер". Угору ён падняўся ў суправаджэнні лябёдак і атрада альпіністаў даволі паспяхова. Але вось спусціцца яму так і не ўдалося: аўтамабіль сарваўся з тросаў і застаўся ў падножжа Эльбруса грудай металу.

Узыходжанне Лендровера трапіла у Кнігу рэкордаў Гінеса, а паход расійскіх "уазікаў" застаўся ў невядомасці – выпрабавальнікі не думалі аб рэгістрацыі рэкордаў.



Выдатнай прахадзімасці УАЗ-469 могуць пазайздросціць многія з «крутых» джыпаў. Але за гэтую якасць уладальнікі расійскага джыпа расплачваюцца дыскамфортам спартанскага салона і рэгулярным абслугоўваннем вузлоў.

Фота з архіва «РГ».

Цяпер ААТ "УАЗ" уваходзіць у склад ААТ "Поўначсталь-аўто", даччынай кампаніі ЗАТ "Паўночсталь-груп".

На базе 469-й мадэлі нарадзіліся сучасныя пазадарожнікі: УАЗ-31512, 31514, 3159 (Барс) і 3153. З 2003 года на заводзе будуць выпускаць і перспектыўны УАЗ-315195. Інжынеры завода цяпер заканчваюць падрыхтоўку да серыйнай вытворчасці гэтага аўтамабіля, які адпавядае стандартам "Еўра-2".

Кіраўніцтва аўтазавода ужо зацвердзіла інвестыцыйную праграму "Антытаксічныя сістэмы", якая павінная забяспечыць адпаведнасць выпускаемай прадукцыі нормам "Еўра-2". Акрамя таго, праводзіцца работы па паляпшэнні якасці выпускаемых машын. Прынятыя праграмы па вырабу новай раздатачнай каробкі, мастоў тыпу Spiker.

Па словах гендырэктара ААТ "УАЗ" Віктара Клочая, завод цяпер перажывае далёка не лепшыя часы, але перспектывы дазваляюць спадзявацца на хуткія перамены да лепшага.

**Па інфармацыі www.autonet.ru**

■ МЕХАНІК РАІЦЬ

## Што трэба ведаць пра дворнікі

Вытворцы дворнікаў звычайна гарантуюць, што іхні прадукт вытрымае тры месяцы інтэнсіўнай працы. Аднак раней ці пазней любая гума пачынае скрабатаць, перасковваць па шкле, і замест таго, каб зганяць ваду, толькі яе размазвае. Сонца і работа на бруднай шыбе робяць сваё: гума цвярдзее, яна становіцца крывой.



Інжынеры заводаў-вытворцаў робяць усё, каб дворнікі працавалі даўжэй, цішэй і эфектыўней. Нямецкі Бош прапануе новыя дворнікі тыпу "Twin". Іхні козыр – злучэнне ў адным дворніку двух абсалютна розных відаў гумы: вельмі цвёрдай і эластычнай.

Дворнікі французскай Valeo вытрымліваюць 1 тысячу гадзін працы ў найгоршых умовах. Іхнія металічныя часткі ацынкаваныя і пакрытыя хромам. Каб працавалі цішэй, прадугледжаны ў іх спецыяльныя элементы – "глушыльнікі". Гумкі пакрытыя графітам або бромам, што змяншае трэнне і знішчэнне матэрыялу, калі дождж яшчэ не расцерся па шкле. Дворнікі гэтай фірмы, як зубныя шчоткі для дзяцей, маюць каляровую кропку, якая робіцца штораз больш бляднай, інфармуючы шафёра, што час на іхнюю замену.

Можна купіць цалкам дворнікі, а можна выбраць і больш танны шлях – гумку. За дзве аддадзім крыху больш за $1. Палепшанай якасці (з графітам ці бромам) будуць каштаваць даражэй.

На базары ці ў аўтакрамах цяпер можна набыць такі сродак, як "антыдождж", або вадкі дворнік. Яго дзеянне грунтуецца на змяншэнні адгезіі шкла, або з'явы прылiпання да шкла розных механічных частак, вады. Зразумела, яго выкарыстанне не пазбаўляе неабходнасці ў звычайных дворніках. Шыба, пакрытая такім сродкам, не так забруджваецца, а дажджавыя кроплі скатваюцца па ёй, як шарыкі ртуці. Такі прэпарат наносіцца з дапамогай анучкі. Бутэлечка вадкасці можа каштаваць $5–8, і яе хопіць на год–два. Я праверыў – гэта акупляецца, калі ідзе вялікі дождж, а вам ехаць у далёкую дарогу.

**Пётр ПАЎЛОЎСКІ.**

### Як падоўжыць жыццё дворнікаў

1. Ніколі не ўжывай іх, каб саскрэбці лёд, град ці засохлых мух.
2. Не ўключай іх, пакуль шкло сухое.
3. Калі твая тачка будзе доўга стаяць на сонцы, лепш дворнікі зняць і схаваць у багажніку.
4. Калі яны доўга не ўжываліся, узнімі іх на момант і проста адпусці, каб яны з імпэтам прыціснуліся да шкла.

## Асноўныя няспраўнасці дызеляў легкавых аўтамабіляў (працяг)

**Аслабленне пасадкі віхравой камеры звычайна патрабуе замены галоўкі**

На рухавіках аб'ёмам 1,6 і 1,9 л няўдала выкананая пасадка шківа зубчастага рэменя на пярэднім наску калянвала. Пры нязначным парушэнні пасадачнай плоскасці тарца шківа пачынаецца яго біенне, а да яго яшчэ мацуюцца даволі такі цяжкія шківы навясных агрэгатаў. Гэта заўжды заканчваецца аслабленнем пасадкі і абрывам рэменя.

Таксама трэба адзначыць, што пашкоджанне тарца ўзнікае пры неакуратным правядзенні рамонтных работ ці парушэнні патрабаванняў па зацяжцы цэнтральнага балта, ставіць які неабходна на клейгерметык Loclite.

Рухавікі Mercedes падобных канструктыўных недахопаў не маюць, чым пацвярджаюць сваёй надзейнасцю і рэсурсам высокую рэпутацыю фірмы. Аднак можна лічыць няўдалым рашэннем выкарыстанне ротарна-размеркавальных помпаў Lucas на рухавіках аб'ёмам 2,2 і 2,9 л (мадэлі OM 604. OM 602.982) на аўтамабілях C і E класаў. Нярэдкія выпадкі выхаду са строю гэтых помпаў, але не такія крытычныя і, як правіла, нават дазваляюць даехаць да сэрвіснай службы. Помпы Boshc пры зносе плунжарных пар і кулачковага вала даюць павелічэнне нераўнамернасці падачы і характэрны "трактарны" гук на халастых абаротах.

Рухавікі аўтамабіляў Opel слабых месцаў не маюць, аднак мадэлі аб'ёмам 1,6 і 1,7 л вельмі адчувальныя да паніжэння ціску масла і змяншэння яго падачы да падшыпнікаў вала і рокераў. Менавіта таму пры вялікіх прабегах для гэтых рухавікоў характэрныя зносы кулачкоў вала і рокераў. Зламаныя рокеры гэтых рухавікоў практычна ніколі не ахоўваюць ад пашкоджанняў клапаны і ўтулкі, а ў выпадку абрыву рэменя заўсёды прыходзіцца мяняць 2-3 клапаны і столькі ж кіруючых.

У рухавіках аб'ёмам 2,3 л не вельмі надзейны ланцуговы прывод механізма газаразмеркавальніка, а вертыкальна размешчаная паліўная помпа высокага ціску (ППВЦ) адчувальная да негерметычнасці паліваправодаў.

Слабым месцам рухавікоў BMW (2,4 і 2,5 л) з'яўляецца паліўная помпа высокага ціску з электронным кіраваннем і электраабсталяванне сістэмы кіравання рухавіком. Самы распаўсюджаны дэфект гэтых ППВЦ – хуткі знос плунжарнай пары, які праяўляецца ў цяжкаватым гарачым запуску, хаця гэта, мабыць, толькі расійская праблема, звязаная з нізкай якасцю дызпаліва. Вельмі часта сустракаюцца абрывы электраправодкі і парушэнне кантактаў. А знос токаздымачных дарожак кіруючага электрамеханізма паліўнай помпы высокага ціску прыводзіць да хістання абаротаў халастога ходу.

У той час сам сілавы агрэгат надзейны, але ў яго высокія патрабаванні да якасці маторнага масла.

Дызелі Ford аб'ёмам 2,5 л, якія ўстанаўліваюцца на мікрааўтобусы, зарэкамендавалі сябе як надзейныя і эканамічныя сілавыя агрэгаты. Аднак сістэма іх перадпускавога падагрэву з дапамогай электрафакельнага ўстройства вельмі капрызная і ненадзейная. Тое ж самае адносіцца і да абрыву рэменя ГРМ, пасля чаго патрабуецца замена галоўкі блока цыліндра.

Сучасныя дызелі французскай вытворчасці патрабуюць вельмі кваліфікаванага абслугоўвання і рамонту. Галоўны іх недахоп цяжка аднесці да канструктыўных – гэта высокая цана запасных частак, асабліва для дызеляў Renault.

Італьянскія дызелі Fiat простыя па канструкцыі, маюць нядрэнны рэсурс, але адчувальныя да рэгуліровак паліўнай апаратуры, практычна заўсёды адказваюць на іх парушэнні павышаным зносам і вібрацыяй. Тое ж адносіцца і да дызеляў Alfa-Romeo, якія, праўда, адрозніваюцца больш складанай канструкцыяй. Асаблівa гэта характэрна для рухавікоў аб'ёмам 2,5 л, якія маюць так званы "тунельны" картэр.

У японскіх дызельных матораў высокі рэсурс, яны добра спраектаваны, хаця, бывае, паказваюць больш нізкія запасы трываласці крывашыпна-шатуновага механізма ў параўнанні з еўрапейцамі. Для звычайнай эксплуатацыі яны дастатковыя, а ў выпадку аварыйных пашкоджанняў іх запасы трываласці становяцца крытычнымі. Напрыклад, пасля разбурэння шатуновага падшыпніка валы перад перашліфаваннем абавязкова павінныя праверацца на адсутнасць трэшчын, асабліва гэта тычыцца рухавікоў Isuzu. Другім недахопам з'яўляюцца доўгія металічныя трубкі "зваротак", якія, хаця і спрошчваюць канструкцыю фарсунак, але часта ламаюцца ці камячацца пры тэхнічным абслугоўванні. У апошнім варыянце рэзка зніжаецца прахадное сячэнне і ўзнікаюць праблемы з палівападачай.

**Георгій ЦВЕЛЕЎ,**
**(працяг будзе).**

# Маторнае масла – маркіроўка

**Сёння на нашым "масленым фронце" перамены, прычым важкія. Мяняецца і асартымент выпускаемага масла, і сістэма яго маркіроўкі. Ва ўсялякага масла ёсць мноства паказчыкаў. Адказы на гэтыя пытанні можна знайсці ў маркіроўцы любога таварнага масла – як айчыннага, так і замежнага, толькі трэба ведаць правілы расшыфроўкі. Гэта стала асабліва актуальным пасля таго, як на нашым рынку з'явілася імпартнае масла.**

Раней у свеце існавала мноства відаў маркіроўкі маторнага масла, але жыццё прымусіла адмовіцца ад гэтай шматварыянтнасці і прыйсці да адзінай сістэмы. У падручніках і навучальных дапаможніках па ўстройстве і эксплуатацыі аўтамабіляў ёсць старая сістэма маркіроўкі, прынятая ў СССР і СНД.

Каб правільна з'арыентавацца ў маторным масле і выбраць тое, што сапраўды патрэбна вашаму аўтамабілю, неабходна перайсці на сусветную сістэму індэксацыі маторнага масла.

На пераходным этапе (пакуль не знятыя з вытворчасці некаторыя маркі маторнага масла па ранейшай класіфікацыі), ёсць сэнс ведаць хаця б арыенціровачную адпаведнасць масла ранейшай і новай сістэме класіфікацыі.




**Своечасовы кантроль узроўню масла мала дапаможа, калі вы карыстаецеся маслам, непрыдатным для дадзенага тыпу аўтамабіля, тыпу і ўзросту рухавіка.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Маркіроўка масла

Усё масла можна раздзяліць на тры асноўныя віды – мінеральнае, паўсінтэтычнае і сінтэтычнае. Але гэта не адзінае дзяленне, на якое трэба звярнуць увагу. Існуе як мінімум дзве важныя якасці, інфармацыю аб якіх вы можаце прачытаць на кожнай каністры. Гэта вязкасна-тэмпературныя паказчыкі і эксплуатацыйныя ўласцівасці.

## Вязкасна-тэмпературныя паказчыкі

Вядома, што добрае масла не павінна ператварацца летам у пару, а зімой – у цвёрды "маргарын". Гэтая якасць – вязкасць – рэгламентуецца ў адпаведнасці з класіфікацыяй SAE J300 (амерыканскага грамадства аўтамабільных інжынераў). Усяго прадугледжана 11 класаў вязкасці. Шэсць зімніх – 0W, 5W, 10W, 15W, 20W, 25W (W-winter, зіма) і пяць летніх (без літарнага абазначэння) – 20, 30, 40, 50, 60. Сорт масла для ўсіх сезонаў абазначаюць двайной маркіроўкай, напрыклад, 15W-40 ці 10W-30 і г.д.

Каб не памыліцца ў выбары масла зімой, карысна ведаць так званае правіла 35. Трэба ад 35 адняць зімні індэкс вязкасці – атрымаеце гранічную тэмпературу прапампавання масла. Напрыклад, 10W-40 (летні індэкс 40 у дадзеным выпадку ролі не іграе) захоўвае цякучасць да –25 С (35—10=25).

"Правіла 35" ідэальна падыходзіць да мінеральнага масла, але масла падыходзіць для ацэнкі сінтэтыкі, у якой зусім асобыя вязкасна-тэмпературныя характарыстыкі. Так, напрыклад, сінтэтыка класа 10W-40 можа быць разлічана і на 50. Наогул сінтэтыка заўжды халаднейшая за мінералку таго ж класа вязкасці, таму з ёй намыліцца (і замерзнуць) амаль немагчыма.

Што тычыцца "летняй" лічбы ва універсальным масле, то яна прыблізна адпавядае тэмпературы паветра ў градусах па Цэльсію, пры якой дапускаецца прымяненне дадзенага масла. Напрыклад, 10W-40 не падвядзе пры тэмпературы 30-35 вышэй нуля.

Калі ўбачыце на каністры масла яго класіфікацыю па SAE 10W-30, вы можаце з большай дакладнасцю вызначыць інтэрвал яго выкарыстання: ад –25 да +25 С (прызначана для выкарыстання ў зімні і летні час).

У залежнасці ад прабегу аўтамабіля мэтазгодна прымяняць:

– да 25% ад планавага рэсурсу рухавіка – SAE 5W-30 ці 10W-30;

– 25-75% ад планавага рэсурсу рухавіка – летам SAE 10W-40, 15W-40; зімой SAE 5W-30, 5W-40;

– больш за 75% ад планавага рэсурсу рухавіка – летам 15W-40, 20W-40; зімой SAE 10W-40, 5W-40.

## Эксплуатацыйныя ўласцівасці

Якасны ўзровень эксплуатацыйных уласцівасцей вызначае шкала API (Амерыканскага інстытута нафтапрадуктаў), што дазваляе падабраць сорт масла, які адпавядае ўзросту вашага аўтамабіля і тыпу яго рухавіка.

Літары API на этыкетцы папярэднічаюць сімвалам класа якасці. Для бензінавых рухавікоў прымяняецца шкала S, якая адпавядае выкарыстанню дадзенага масла ў бензінавым рухавіку. Другой літарай абазначаецца клас масла. Напрыклад, SH, SG ці SJ. Чым далей па алфавіту літара, тым для больш сучасных рухавікоў прызначана масла.

Масла для дызельных рухавікоў абазначаецца літарай C. Калі масла універсальнае (падыходзіць і карбюратарным, і дызельным рухавікам), то яно абазначаецца дробавым індэксам, дзе ў лічніку – найлепшы тып рухавіка. Напрыклад, API SG/CF (расшыфроўваецца як масла маторнае, універсальнае, клас якасці G на шкале для карбюратарных і клас F для дызельных, найлепшы тып рухавіка – карбюратарны).

Якасны ўзровень масла павінны адпавядаць дадзенаму рухавіку (гэтыя ўказанні даюцца ў заводскай інструкцыі да аўтамабіля). Для выбару масла да вашага аўтамабіля можна карыстацца табліцай класіфікацыі якаснага ўзроўню маторнага масла па API (рэкамендавана ў часопісе "За рулем").

**Для бензінавых рухавікоў**

| Абазначэнне | Прымяненне |
|---|---|
| SE | Для канструкцый 1972-79 гадоў |
| SF | Для канструкцый 1980-88 гадоў |
| SG | Для фарсіраваных матораў, вытворчасць якіх пачата ў 1989 годзе |
| SJ | Для сучасных рухавікоў, якія адпавядаюць жорсткім патрабаванням эксплуатацыі |

**Для дызельных рухавікоў**

| | |
|---|---|
| CC. | Для сярэдненапружаных матораў |
| CD | Для напружаных дызеляў, у тым ліку з турбанадзіманнем |
| CE | Для высоканапружаных дызеляў, якія працуюць у цяжкіх умовах |
| CF | Масла, якое адпавядае найвысокім сучасным патрабаванням |

Для высокафарсіраваных матораў (звычайна з турбакампрэсарам) рэкамендуецца масла вышэйшага класа. Яно можа быць зроблена як на нафтавай, так і сінтэтычнай аснове. "Сінтэтыка" – цудоўны змазачны матэрыял з многімі недасягаемымі раней якасцямі (у першу чаргу – павялічаны ў некалькі разоў тэрмін службы), і адзінае, што дрэнна – высокая цана. Для даведкі: на этыкетцы такога масла заўжды ёсць спецыяльнае ўказанне аб яго сінтэтычным "паходжанні".

Так як на тэрыторыі СНД цяпер яшчэ выпускаюць масла "ранейшай" класіфікацыі, неабходна ўмець параўноўваць "старую" маркіроўку з "новай".

**Арыенціровачная адпаведнасць класаў вязкасці маторнага масла ранейшай (ГОСТ 17491. 1-85) і новай (API) сістэме класіфікацыі**

| ГОСТ | SAE |
|---|---|
| 3з | 5W |
| 3з/8 | 5W-20 |
| 4з | 10W |
| 4з/8 | 10W-20 |
| 4з/10 | 10W-30 |
| 5з | 15W |
| 5з/12 | 15W-30 |
| 5з/14 | 15W-40 |
| 6з | 20W |
| 6з/10 | 20W-30 |
| 6з/14 | 20W-40 |
| 8 | 20 |
| 10 | 30 |
| 12 | 30 |

**Арыенціровачная адпаведнасць класаў якасці маторнага масла**

| ГОСТ 17479. 1-85 | API |
|---|---|
| В | SD/CB |
| В1 | SD |
| В2 | CB |
| Г | SE/CC |
| Г1 | SE,SF |
| Г2 | CC |

**Юрый ЕРМАКОВІЧ, выкладчык Беразінскага ПТВ-42.**

# Своечасова мяняйце маслены фільтр

**Са зменай масла неабходна замяніць і маслены фільтр.**

Падчас вадзіцелі задаюць пытанне: Ці можна замяніць масла, а фільтр пакінуць старым? Адказ адназначны: калі вы збіраецеся ездзіць на гэтым аўтамабілі, то нельга. Язда з брудным, забітым фільтрам – гэта як язда наогул без фільтра, таму што ва ўсіх фільтрах ёсць засцерагальны клапан і, калі фільтр забіваецца, усё масла праз яго паступае ў сістэму змазкі, да ўкладышаў. Брудное масла, хоць вы яго і злілі, заўсёды застаецца ў невялікай колькасці на сценках рухавіка, у розных "кішэнях" і, вядома ж, у самім масленым фільтры. У гэтым масле ёсць цвёрдыя часцінкі (тая ж сажа, металічная стружка, дакладней, металічны пыл). Калі вы ўстановіце новы фільтр, вы адфільтруеце ўсё гэтае смецце. У адваротным жа выпадку яно (са свежым маслам) праз засцерагальны клапан забітага старога фільтра трапіць на ўкладышы і там укарaніцца у матэрыял алюмініевага ўкладыша. Акрамя таго, невядома, што атрымаецца ў выніку ўзаемадзеяння новага масла з рэшткамі старога ў фільтры.

Разгледзім працэс замены масла. Неабходна скруціць зліўны корак з картэра рухавіка. Тут ёсць некалькі момантаў, на якія бы хацелася звярнуць увагу.

Трэба высветліць, ці той корак вы здымаеце, каб не пераблытаць зліўны корак картэра рухавіка са зліўным коркам картэра аўтаматычнай каробкі перадач у папярэчнага рухавіка (напрыклад, Tayota Camry).

Затым, калі вы "падарвяце" корак і ён пачне круціцца ад сілы рукі, падстаўце якую-небудзь мелкую пасудзіну, для таго, каб сабраць у яе першыя кроплі масла. Прычым, як толькі яны з"явяцца, адразу ж перастаньце адвінчваць гэты корак, інакш, калі масла хлыне, вы са сваёй пасудзінай будзеце, як мінімум, па локаць у гэтым масле. Калі кропляў 10–20 сарвецца, убірайце пасудзіну і выкручвайце корак да канца. Прычым, у момант, калі вы яго выкруціце, прыціскайце корак да картэра, а перад тым, як перахапіць пальцы, пастарайцеся рэзка апусціць корак уніз і ўбок: можа быць ён ужо адкруціўся, і з адтуліны адразу хлыне гарачы струмень масла.

І тут ёсць адзін сакрэт. Калі да адкручвання корка застанецца 2–3 віткі, прывяжыце да спускнога корка кавалак шпагату і наматайце некалькі віткоў па разьбе. Пацягнуўшы шпагат, можна адкруціць корак, тым самым засцерагчы яе ад гразі, а рукі – ад гарачага масла. Калі масла пачне выцякаць з картэра, разгледзьце першыя кроплі ў сваёй мелкай пасудзіне – ці няма там металічнай стружкі. Звярніце ўвагу і на корак – ці няма той самай стружкі. Калі масла колеру кавы з малаком, значыць, у вас масла з вадой, якая патрапіла ў картэр у выніку, напрыклад, прагарання пракладкі.

І апошняя "тонкасць", якую трэба ведаць пры замене масла. Калі зліўны корак ужо можна будзе круціць пальцамі, звярніце ўвагу на тое, дзе знаходзіцца медная пракладка гэтага корка. Калі яна прыліпла да паддона, паспрабуйце скалупнуць яе пальцамі, і ў далейшым, пры адкручванні корка, зацiскайце галоўку корка і пракладку пальцамі. У іншым выпадку ёсць вялікая верагоднасць, што вы яе згубіце.

У ідэале фільтр павінен лёгка скручвацца рукой, і таксама лёгка павінен ўкручвацца новы фільтр. На практыцы ўсё атрымліваецца інакш, не чакайце, што ён лёгка адкруціцца. Спачатку абгарніце корпус фільтра наждачкай і адручвайце праз яе рукамі. Гэта дапамагае ў пяці выпадках з дзесяці. Калі не дапамагло – паклічце суседа. Калі і ён не дапаможа, пашукайце ў суседзяў заціск для адкручвання масленых фільтраў. Калі і тут няўдача – прыйдзецца скручваць з дапамогай малатка і зубіла.

**Станіслаў ЛЕВАНОВІЧ.**

## ВІНШАВАНКІ

Паважаная
**Ядвіга Браніславаўна Мянцюк!**
Сардэчна віншуем з 55-годдзем!
Жадаем Вам усяго самага добрага: светлых і радасных дзён, шчасця, удачы ва ўсіх справах.
Сегодня у Вас юбилей,
Красивая, круглая дата.
Какой бесконечной когда-то
Дорога казалась к ней.
Стремительно время летит,
Но сколько бы не миновало,
А лет Вам сегодня на вид
Еще удивительно мало.
Такой оставайтесь всегда —
Красивою, женственной, милой,
Не знающей скуки унылой,
Внушающей радость труда.
Чтоб лет через десять опять
Смогли мы, как прежде, сказать:
На вид Вам всего 25!
*Калектыў ТЭ УП «Аўтабаза» Маладзечанскага райспажыўтаварыства.*

Віншуем з днём нараджэння **Франца Баляслававіча**, рабочага з дз/с №5 з Вілейкі! Здароўя, шчасця. *Калектыў.*

Віншуем **калектыў дз/с №5** г. Вілейкі з 30-годдзем адкрыцця садка. *Прафсаюзны камітэт.*

Віншуем **Ірыну Гендрыхаўну Бельскую** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, удачы, усмешак на твары, поспехаў ва ўсіх пачынаннях. *Дочкі.*

Віншуем з днём нараджэння **Веру Мікалаеўну Квачонак**! Жадаем здароўя, удачы, дабрабыту і знайсці сваю другую палавінку. *Калегі.*

Віншуем з днём нараджэння **Нэлі Фёдараўну Дурко**! Жадаем моцнага здароўя, удачы, кахання, дабрабыту і добрага настрою. *Калегі.*

Любімую дачушку і сястру **Святлану Рудзянкову** віншуем з 25-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту. *Тата, мама і брат.*

Любімага мужа **Ігара** віншую з днём нараджэння! Жадаю здароўя, шчасця, кахання, добрага настрою. *Юлія Фалей.*

Віншую **Ігара Фалея** з днём нараджэння! Жадаю здароўя, кахання, сямейнага дабрабыту, поспехаў, бадзёрасці. *Цешча.*

Віншуем з днём нараджэння сына **Ігара Фалея**! Здароўя, шчасця і будзь шчаслівым. *Мама, тата.*

Віншуем дарагую, любімую і паважаную мамачку і бабулю **Крысціну Мікалаеўну Навойчык** з юбілеем! *З любоўю дзеці, зяць, унукі.*

## Кінатэатр «Радзіма»



**10-12 студзеня.** Прэм'ера. **"Антыкілер"**, Расія – у 17.00, 19.00 і 21.00. Акрамя асоб да 18 год.

**13-19 студзеня.** Прэм'ера. **"Астэрыкс і Абелікс: місія "Клеапатра"**, Францыя, камедыя – у 17.00, 19.00 і 21.00.

**ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ**

**10-12 студзеня.** Новы фільм для ўсёй сям'і. **"Тайная крэпасць"** – у 15.00.

ДЫСКАТЭКА. У пятніцу, суботу і нядзелю ў 21.00 для моладзі, у суботу і нядзелю ў 17.00 – для падлеткаў.

■ ПАШПАРТЫЗАЦЫЯ

# З пашпартам да 100 гадоў



Сёння пашпарт – галоўны дакумент і для граніцы і для пенсіі. Фота IREX/ProMedia.

**МАЛАДЗЕЧНА. За першыя восем дзён 2003 года 12 чалавек згубілі свае пашпарты, у пяцярых іх выкралі, яшчэ ў дваіх згарэлі падчас пажару.**

У такіх сітуацыях часцей аказваюцца разведзеныя, непрацуючыя... Студэнтаў і вяскоўцаў гэта тычыцца ў меншай ступені. Бо бяруць з сабой дакумент толькі па патрэбе. Губляюць пашпарты ў магазінах, на базары. Наогул, носяць дакумент куды трэба і куды не. На дыскатэку, на рыбалку, у лес. У адной жанчыны пашпарт да латка з-пад яек прыліп. Знайшлі яго, як усе яйкі з'елі. Губляюць пашпарты і ў замежжы. Найчасцей, у Швецыі, Германіі, Польшчы, Італіі, Нідэрландах. Дзе б ні згубіліся нашыя пашпарты, да нас жа яны і вяртаюцца. Бывае, што чалавек утойвае пашпарт дзеля нейкай выгоды. Прыкладам, скрывае шлюб ці па адным пашпарце жыве ў Беларусі, а па другім – у Расіі. Але гэта ўжо не па закону.

Калі вы аказаліся без пашпарта або хочаце абмяняць пашпарт старога ўзору на новы, неабходна звярнуцца ў аддзяленне пашпартна-візавай службы (ПВС) Маладзечанскага ГРАУС. Штодня ў аддзяленне ПВС прыходзіць 150-200 чалавек, каб атрымаць пашпарт.

Начальнік аддзялення ПВС Валерый Кавалёў гаворыць, што па гораду і раёну 76,8% насельніцтва атрымалі пашпарты новага ўзору. Актыўней мяняюць гараджане. Апошні тэрмін абмену пашпартаў 1 ліпеня 2004 года. Пакуль сапраўдны пашпарт грамадзяніна СССР узору 1974 (калі ўклеена фотакартка ўладальніка па дасягненні 25 і 45 год). Так як і пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь узору 1993 года (з сімволікай "Пагоня"), калі тэрмін дакумента не прайшоў. Могуць узнікнуць складанасці, кажа В.Кавалёў, у пенсіянераў, што не маюць новых пашпартаў. З 1 студзеня 2003 года ўступіў у дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь "Аб індывідуальным (персаніфікаваным) уліку ў сістэме дзяржаўнага сацыяльнага страхавання.

Пашпарт можна рабіць з 1-га дня жыцця. Часцей яго робяць для хворых дзяцей, якім неабходнае лячэнне ў замежжы. Ці каб выехаць разам з дзіцем да замежных сваякоў. Такі пашпарт будзе сапраўдным да 16 гадоў. Фотаздымкі пераклейваць не патрэбна. Нават калі чалавеку ўжо 15, а з фотакарткі пазірае гадавалае дзіця. Пячатка, што ставіцца на дакуменце і дазваляе ім карыстацца, сапраўдная 5 гадоў.

З 16-гадовага ўзросту ўсе павінныя мець пашпарт. Але можна яго зрабіць ужо ў 15 гадоў. Потым неабходна яго памяняць у 25 і 45 гадоў. Абмен можна пачынаць з 24 і 44 гадоў адпаведна. Далей ён будзе сапраўдным да 100 гадоў. Мяняецца пашпарт на працягу 1 месяца, калі няма вялікай чаргі.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ТВАЁ ІМЯ

# Павел – характар не просты

У перакладзе з латыні імя дакладна азначае "малы", яно атрымала сваё распаўсюджванне ў сувязі з дзейнасцю заснавальніка праваслаўнай Візантыйскай Царквы апостала Паўла.

Характар Паўла не зусім просты, але мець зносіны з ім лёгка і прыемна. У рабоце вынаходнік, але сам бывае задаволены радка. Вышэй за ўсё цэніць ісціну, прыгажосць, дабрыню. Не робіць неабдуманых паступкаў, няспешна дзейнічае ў экстрэмальных сітуацыях. Ён сам будуе сваё жыццё і нават каханне. У Паўла канкрэтныя мэты і жаданні, якія яму хочацца ажыццявіць. Цярплівы і ўмее чакаць вынікі сваёй работы. У яго моцная воля, якая дазваляе яму стаць самаахвярным работнікам, але многае ўсё ж залежыць ад яго настрою.

Павел вельмі востра рэагуе на ўсё, што адбываецца, хаця і з некаторым спазненнем. Бывае помстлівым, доўга не згадваецца з чым-небудзь, а затым наладжвае адносіны, але нікому ніколі не дарue. Яго раўнавага залежыць ад максімальнага задзейнічання яго энергіі. Цікавіцца дакладнымі навукамі, філасофіяй, псіхалогіяй, мовамі. Гэта выдатны адміністратар, юрыст. Яго вабіць усё, што звязанае з прамоўніцкім мастацтвам, таму ён можа быць добрым работнікам радыё і тэлебачання. Вельмі вялікая інтуіцыя. У Паўла высокі інтэлект, але некалькі інертны розум. Задзейнічае вялізную колькасць энергіі, каб зрабіць уражанне. Валодае выдатным пачуццём гумару. Яго трэба прымаць такім, які ён ёсць на самой справе.

Павел спагадлівы і любячы, але бывае і жорсткім. Здраду пераносіць з цяжкасцю, вельмі пакутуе. Яму здаецца, што ён мае права рабіць паступкі, зусім не звяртаючы ўвагі на меркаванне навакольных. У Паўла моцна развітае пачуццё таварыства і кахання, але і тут ён хоча прымусіць іншых адказваць на свае пачуцці сілай. Паражэнне перажывае моцна, асабліва маральныя няўдачы. Ва ўсім імкнецца да дасканаласці, а гэта, вядома, часта прыводзіць да непрыемнасцей.

Здароўе Паўла залежыць ад абставін. Пакуль ён поўны энтузіязму, усё ў парадку, але як толькі ўпадае ў адчай, усё страчваецца.

Любіць сям'ю і дзяцей. Жонка Паўла павінна мець анёльскае цярпенне, каб вынесці яго прыдзірлівую ўвагу.

■ ІМЯНІНЫ

**10 студзеня**
**Праваслаўныя:** Агафіі, Зіновія, Ігната, Ніканора, Пятра, Феафіла, Яфіма.
**Каталіцкія:** Рыгора, Яна.
**11 студзеня**
**Праваслаўныя:** Марка, Маркела, Феафіла.
**Каталіцкія:** Ганараты, Мацільды, Фелікса.
**12 студзеня**
**Праваслаўныя:** Анісі, Фядоры, Зоціка, Макара.
**Каталіцкія:** Аркадзя, Багуміла, Бенядыкта, Часлава.
**13 студзеня**
**Праваслаўныя:** Маланні.
**Каталіцкія:** Веранікі, Багуміла, Гіляра.
**14 студзеня**
**Праваслаўныя:** Абразанне Гасподнае, Васіля (Новы год).
**Каталіцкія:** Фелікса.
**15 студзеня**
**Праваслаўныя:** Ульяны, Серафіма, Сільвестра.
**Каталіцкія:** Макара, Паўла.
**16 студзеня**
**Праваслаўныя:** Гардзея.
**Каталіцкія:** Ганараты, Маркела, Уладзіміра.

## Купон 2

Рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Укажвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету! Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Курыныя кумпячкі з ананасам і цыбуляй-парэем



**На 4 порцыі: 8 курыных кумпячкоў, 2 зубчыкі часнаку, 2 ст. лыжкі мёду, 5 ст. лыжак алею, 1 ч. лыжка сушаных траў, соль, молаты чырвоны і чорны перац, 2 сцяблінкі цыбулі, 1 бляшанка кансерваваных ананасаў (430 г), кэры.**

Часнок прапусціць праз прэс, перамяшаць з мёдам, 2 ст. лыжкамі алею і зелянінай. Прыправіць соллю, перцам, кэры і намазаць сумессю кумпячкі. Разагрэць у форме для смажання 3 ст. лыжкі алею і абсмажыць у ім кумпячкі. Затым тушыць 10 мінут. Цыбулю нарэзаць кольцамі. Ананасы адкінуць на друшляк, пры гэтым сабраць сок, і парэзаць на кавалачкі. Пакласці цыбулю і ананасы ў форму для смажання, дадаць 5 ст. лыжак соку і тушыць яшчэ 15 мінут. Па жаданні можна падаваць з рысам.



## ЗНАЁМСТВЫ

50/160/70. Пазнаёмлюся з цікавым мужчынам для прыемных сустрэч. Маладзечна-4, а/с 9.

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

# Ці радуе вас зіма?



**Наталля Малінец, ветэрынарны ўрач:**

— Вельмі. Люблю я зіму. Святаў шмат. Пасля іх таксама адчуваю сябе добра. Бо вяду здаровы лад жыцця, нават у святы.



**Вячаслаў Плячко, прадпрымальнік:**

— Зіма заўсёды радуе. Асабліва цяперашняя, са снегам і маразамі. А то апошнія 10 гадоў – зіма-не зіма. Гэтай зімой займаюся рамонтам у кватэры, каб вясной і летам можна было нармальна жыць.



**Святлана Піскорская, педагог:**

— Так. Снегу шмат. А яшчэ я нарадзілася зімой. Чакаю ў падарунак мяккі куток. Мяркую, што муж падорыць.



**Таццяна Гражэвіч, выкладчыца па класе цымбалаў:**

— Радуе. Асабліва снег. Яго так шмат. Марозу не баюся. На вуліцы дублёнка грэе, а дома – муж.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ НАДВОР'Е

| Мінск | 10.1 дзень | 10.1 вечар | 11.1 дзень | 11.1 вечар |
|---|---|---|---|---|
| ападкі | | | | |
| атмасферны ціск, мм | 736 | 736 | 741 | 743 |
| тэмпература паветра, °С | -8 | -9 | -19 | -26 |
| вільготнасць паветра, % | 98 | 97 | 97 | 92 |
| вецер, м/сек | 1-2 | 1-3 | 1-3 | 1-3 |

| Вільня | 10.1 дзень | 10.1 вечар | 11.1 дзень | 11.1 вечар |
|---|---|---|---|---|
| ападкі | | | | |
| атмасферны ціск, мм | 745 | 745 | 750 | 751 |
| тэмпература паветра, °С | -5 | -11 | -19 | -24 |
| вільготнасць паветра, % | 97 | 96 | 98 | 97 |
| вецер, м/сек | 2-5 | 2-5 | 1-3 | 1-3 |

## Чытайце праз тыдзень:

- **Гісторыя пра шнуркі.** Кожную сераду, суботу і нядзелю Валянцін Прысяжны прадае шнуркі. Лепш разыходзяцца чорныя....
- **Фіктыўны развод.** Часам дзеля ўпарадкавання маёмасці бывае патрэбны не толькі фіктыўны шлюб, але і фіктыўны развод. Гісторыю апавядае Алесь Ралавец.

## Гараскоп 13 – 19 студзеня



**Авен (21.03–20.04)**

Каханне з першага погляду можа прывесці да заблытаных адносінаў з сябрамі ці расчараванняў. Некаторая схільнасць да крайнасцяў можа выклікаць унутранае жаданне змяніць месца жыхарства, работу, кола сяброў ці накірунак творчасці. Шмат сітуацый, якія немагчыма растлумачыць, будзе спадарожнічаць у гэты перыяд, магчымы экстранныя звароты да дактароў.



**Цялец (21.04–21.05)**

На рабоце ў некаторых могуць з'явіцца апаненты. Вам прыйдзецца адстойваць свой пункт гледжання. Магчыма, з'явіцца жаданне заняць некаторую суму грошай для камерцыйных спраў, пры гэтым вы ўскладваеце надзеі на падтрымку сяброў і аднадумцаў, а яны, са свайго боку, могуць адмовіцца. Не трэба хваляваццa, лепш успомніце прымаўку: "што бог ні робіць, усё да лепшага".



**Блізняты (22.05–21.06)**

Вам неабходна навучыцца быць сур'ёзнымі і адказнымі, самастойна прасоўвацца да вызначанай мэты. Змяненні могуць тычыцца не толькі сяброўскіх, але і партнёрскіх сувязяў. Магчыма, прыйдзецца прайсці праз этап разбурэння дарагіх вам адносінаў. Старайцеся беражліва размаўляць адзін з адным. Калі вашыя ўзаемаадносіны моцныя ў сваёй аснове, такая духоўная ачышчальная працэдура пойдзе толькі на карысць.



**Рак (22.06–23.07)**

У гэтыя дні Ракі маюць магчымасць значна палепшыць матэрыяльны стан. У дзяцей можа пагоршыцца самаадчуванне, магчыма раптоўнае захворванне. Меры перасцярогі дапамогуць пазбегнуць ускладненняў. Старайцеся трымаць пад кантролем эмоцыі, каб не пашкодзіць сваёй кар'еры і ўзаемаадносінам з партнёрамі.



**Леў (24.07–23.08)**

Работа, паўсядзённыя абавязкі будуць успрымацца вамі як сферы для творчага самавыражэння. І сапраўды, у гэтыя дні у вас могуць з'явіцца дадатковыя магчымасці для прасоўвання па службе. Магчымы заблытаныя адносіны з каханым. Некаторыя будуць настроены ідэалізаваць адносіны паміж членамі сям'і. Вас не пакіне натхненне.



**Дзева (24.08–23.09)**

Могуць узнікнуць непаразуменні на рабоце з-за нежадання якасна і своечасова выконваць свае абавязкі. Няма сэнсу грошы зарабляць мэтанакіраванай, упорнай працай. Усе сілы могуць пайсці ўпустую. Галоўнае, паважаць закон і выконваць усе правілы грамадскага парадку. Цікавымі будуць любыя віды паездак, за выключэннем далёкіх.



**Шалі (24.09–23.10)**

Магчыма, набыццё нерухомасці, расшырэнне сям'і, набыццё прадметаў камфорту. Тайныя любоўныя сувязі могуць прынесці непрыемнасці. У сярэдзіне тыдня ўстрымайцеся ад выкарыстання паветранага транспарту і будзьце асцярожныя з электрычнасцю.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Колькасць грошай не заўсёды будзе вас задавальняць. Гэта не самы лепшы час, каб пазычаць грошы ці класці іх у банкі або даваць пад працэнты. Вы можаце падмануцца і не атрымаць нічога, нават сваіх грошай. Для многіх Скарпіёнаў можа стаць прыемнай нечаканасцю павышэнне заработнай платы ці з'яўленне новай крыніцы даходаў.



**Стралец (23.11–21.12)**

Калі перад вамі стаіць праблема выбару часу для паездкі ў блізкае ці далёкае замежжа, то прадпрымайце актыўныя дзеянні для таго, каб яна пачалася пасля 23 студзеня. У некаторых можа ўзнікнуць жорсткасць у адносінах як з блізкімі, так і з самім сабой. Памятайце, што праблемы ў сумесным жыцці могуць прывесці да маральнай адзіноты, што згубна для прадстаўнікоў гэтага знака.



**Казярог (22.12–20.01)**

У гэтыя дні трэба быць асабліва ўважлівым у афармленні папер, дакументаў. Бухгалтарам лепш заняцца праглядам старых справаздач; у рабоце бягучага перыяду могуць быць дапушчаныя памылкі, якія складана будзе адшукаць. Касмічныя энергіі дапамогуць вам з выгадай для сябе выкарыстоўваць сувязі. Вам будзе спадарожнічаць удача ў дзелавым прадпрымальніцтве, гандлі, выдавецкай і пісьменніцкай дзейнасці.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Сябры могуць жартам устроіць шантаж у сувязі з рамантычным захапленнем на службе. Магчымы непаразуменні пры вырашэнні фінансавых пытанняў, што можа паслужыць прычынай узнікнення залежнасці, а таксама матэрыяльных страт. У далейшым пашырыць сферу сацыяльнага ўплыву, крыніцы даходаў дапамогуць надзейныя ўплывовыя партнёры. Будзьце асцярожныя з наземным ці паветраным транспартам.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Рыбы ідуць па светламу шляху развіцця і атрымаюць нечаканую дапамогу ад анёла-ахоўніка. У патрэбную хвіліну ім будзе прыходзіць неабходная інфармацыя, якая дапаможа вырашыць складаныя жыццёвыя пытанні. У кароткіх паездках вы таксама будзеце адчуваць нябачную прысутнасць анёла-ахоўніка. Хутчэй за ўсё, з'явіцца неабходнасць аддаваць даўгі маральнага характару блізкім людзям, сваякам.



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар Аляксандр МАНЦЭВІЧ.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж 10300 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 63369 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. №2 (403) 10.1.2003. РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая,11. Зак. № 54. Падпісана ў друк у 13.00 9.1.2003

Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.
E-mail: regionnews@promedia.by
http://regionnews.promedia.by

ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ
Маладзечна: Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. 69667, 53841.
Вілейка: вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». Тэл. 55284.
Смаргонь: вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». Тэл. 33077, 34353.

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444